**УДК 882.6-1**
**ББК 84(4БЕИ) — 5**
**Б 14**

**Баграновіч І.**
Прыватныя рымляне. Вершы. Мн., 2006. — 98 с.

Асноўны тон новай паэтычнай кнігі Ірыны Баграновіч — камэрнасьць і інтымнасьць. Нават тады, калі пэрсанажамі і суразмоўцамі ў яе вершах становяцца такія знакамітыя постаці, як Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала, Уладзімір Дубоўка ды іншыя дзеячы нацыянальнай культуры мінуласьці і сучаснасьці. Ключавой ідэяй кнігі стала думка з дзёньнікаў Уладзіміра Караткевіча аб сэнсе пісьменьніка, які «ня толькі за Цэзараў гаворыць, ён — дрэнна ці добра — гаворыць за усіхрадавых прыватных рымлян...». Лірычная гераіня кнігі — гэта менавіта «прыватная беларуска», якой дарагі родны край, якая адкрывае душу для сяброўства і каханьня, не баіцца быць шчырай, загартоўваецца ў выпрабаваньнях, робіць свае высновы і назіраньні на шляху самапазнаньня. Адметную частку кнігі складаюць пераклады з польскай мовы, таксама зьвязаныя з ключавым тонам кнігі — інтымнасьцю і камэрнасьцю.

**УДК 882.6-1**
**ББК 84(4БЕИ) — 5**


*Дачцэ*
*Александрыне*

**Па кудзелі**

На белым аркушы
строй літар друкаваны,
нібы на ручніку
арнамент гафтаваны.
Ручнік у спадчыну
трапляе па кудзелі,
зь ім лес такі
і аркуш гафтаваны
дзеліць.
І па яго мудроніках-спляценьнях
чытаюць сэнс жыцьця,
адбіты ў пакаленьнях.

# Скрутак першы

# ВЕРАСОВАЯ НОТА КАХАНЬНЯ

* * *

*Пакуль часіна прыйдзе хрызантэм,*
*Яшчэ ёсьць ружы, бэз і подых маю,*
*Яшчэ, як заклінаньне, як татэм,*
*Ня згасьлі словы ў сэрцы: «я кахаю…»*

**Верасовая нота каханьня**

Цёплым полымем сьцелецца верас,
Павуцінкі трымцяць ад дыханьня,
Цішыня, і чуваць, як заве нас
Верасовая нота каханьня.

Загучала яна нечакана,
Запляла ўсе пяшчотныя гукі
У прыгожа-высокім сапрана,
І злучыла нам душы і рукі.

Я зьбіраю букет верасовы,
Да сьцяблінкі сьцяблінку складаю,
Быццам верша натхнёныя словы,
Дзе праз коску: кахаю, кахаю…

Верасовая казка трымае
У сваім чарадзейным палоне.
Верасовая песьня лунае,
І ў той музыцы сьвет цэлы тоне.

Я хаваю свой твар у букеце,
Чую вераса водар мядовы…
Мы на момант адны ў цэлым сьвеце:
Я і мой чараўнік верасовы.

**Верас на Ісачы**

Пацеркі лета данізвае жнівень і цераз
Два несыпякотныя дні запануе тут
восень.
Зьзяе прадвесьцем яе мройна-мройлівы
верас,
Цэлае мора яго каля ног разьлілося.

Цуд верасовы ўспамінамі сэрца
напоўніў,
Зноў абдарыў прадчуваньнем узьлёту
каханьня,
Лашчыць мне верас пяшчотаю твар і
далоні,
З чым параўнаць тую ласку яго
дакрананьня?

Верас чароўны, з табою мы змоўшчыкі
зараз,
Толькі табе аднаму сваю тайну даверу...
Потым няхай адвязе мяне ў горад
ікарус —
Верас букетам увойдзе са мною ў
кватэру.

Верас!.. Кранальныя, сьціплыя кветкі
наўзьлеску
Шэпчуць імя ўладара маіх думак
таемных.
Дзякуй нябёсам за цуд — верасовую
фрэску
З позіркам мілых вачэй закахана-
праменных.

Можа, сустрэчу нам вызначыць некалі
верас,
Шлях пракладзе найбліжэй да
спаткальнае восі?..
Пацеркі лета данізвае жнівень і цераз
Два несыпякотныя дні запануе тут
восень.

* * *

Доўгіх расстаньняў між намі нябачнае прадзіва
Ліўнем прадзецца ці сонца асеньнім праменьнем.
Побач ідзеш, дарагі мой, ні ў кога ня ўкрадзены,
Гаспадаром легкакрылых маіх летуценьняў.

Што нам чужыя сустрэчныя словы і позіркі!
Што нам кастрычніцкі дождж —
сёньня ён наш хаўрусьнік!
Мы як на казачным дне чарадзейнага возера,
Згубай-русалкай шчыльней да цябе прытулюся...

* * *

Кастрычнік нам жоўтае лісьце ськідаў на галовы,
І крочылі мы ў царавартасным золатападзе.
Зьліваліся з шолахам, шэлестам,
шоргатам, шорханьнем словы,
І ўсё гэтай жоўтай, зьвінячай,
ўсямоцнай належала ўладзе:

Усе нашы рухі і позіркі, рук скрыжаваньне,
Імклівыя думкі, што вецер над вежамі ўзносіў.
І зьзяла чароўнай, павеўнай,
зіркастай лістотай спатканьне,
І нас благаслаўляла,
як Маці Нябёсная,
Восень.

Сьвяціліся шыльды, зямным спакушаючы раем,
Сьцяліўся прасьпект фантастычнай дарогай да зорак.
І момант жыцьця даў нам тайніцу стаць небакраем,
Дзе неба зь зямлёю злучыліся шлюбам учора.

А лісьцем, як шлейфам, сьцяліўся
прыдворны
Кастрычнік
Пры фрэйлінах Восені царскай і
яснавяльможнай.
Ізноў небакрай разьбягаўся, дваіўся
прывычна
На неба й зямлю…
Зь іх самім і самотным быў
кожны.

**Герою даўняга ўспаміну**

Так многа ўсьмешак і вачэй
Нас разьдзяляла прад спатканьнем…
Зь Зямлёй Юпітэру лягчэй
Было сустрэцца… Дакрананьнем
Няўлоўным трапятлівых слоў
Ты вызваліў душу з палону -
І сьвет мелодый, мар і сноў
Адсунуў прада мной заслону.
І я ступіла за яе,
Як паланянка ў царства волі.
І там — у зоркавым сяйве —
Мой дух яшчэ ня быў ніколі…

Як дзіўна абдарыў нас лес!
Доўгачаканая сустрэча
Ўзьняла нас проста да нябёс…
І ліхтарамі таньчыў вечар,
Калі гарэзьлівая кроў
Нам вусны горача злучала…
Ты быў юнак з найлепшых сноў,
Аб кім мне доля прамаўчала.
Мы йшлі між дрэў і ля сьцяны,
Палацам шлюбным стаў нам горад, —
Прышэльцы з нейкай даўніны,
Героі казачнай прасторы…

Але настаў звычайны час:

Закрыта казачная брама.
Няма ключа. Ліхтар пагас.
Вартаўніка няма таксама.
Пусты, зусім ня райскі сад.
Адчужаная далеч лёсаў.
Усё было сто год назад:
Каханьне, ўзьлёт наш да нябёсаў...
Ці падабаецца, скажы,
Цяпер табе такі малюнак?
Мой скарб у тайніцы душы —
Наш самы першы пацалунак,
Спляценьні пальцаў, танца рытм,
Тваё дыханьне каля скроні,
Пачуцьцяў сьведкі — ліхтары,
Праз шоўк цяпло тваёй далоні...

Заплюшчу вочы, каб згадаць
Яшчэ раз казку тых хвілінаў.
Забараню сабе кахаць
Героя гэтых успамінаў.
Забараню сабе чакаць
Ізноў так прагнага мной цуду,
І на тваім шляху стаяць,
Табой ня кліканай, ня буду.
Адно суцешыць, як мінор,
Сьвятых шапэнаўскіх мэлёдый:
Быў наш супольны ўзьлёт да зор!
А гэта варта цэлай оды!

**Ліпеньскі баль**

Згадаю зноў чароўны баль —
Той незабыўны ліпень, вечар,
Шампанскім вымыты амаль
І казачным спавіты нечым...

Твая пяшчотная далонь,
Кранальны шэпт, вачэй усьмешка...
І хмельны водар поўніць скронь
З узьлётам птушкі ўперамежку.

Куды, ня ведаю, той шлях,
Ды ўсё вышэй мяне ўзьнімае
Прамень смарагдавы ў вачах...
Няўжо шчасьліва так бывае?!

Так доўга казку прадчуваць,
З рукі тваёй трапляць у вырай...
Ўсё ж Госпад зможа дараваць
Нам наш парыў гарачы, шчыры.

О, як. прашу Яго, малю
Яшчэ раз мой ланцуг паслабіць,
Каб быць мне з тым, каго люблю,
За літасьць гэту Бога славіць!

* * *

У ліпеньскім вальсе плывуць ліхтары.
І ты гавары мне, ізноў гавары
Аб тым, што найлепшыя спраўдзяцца
сны,
І ў гэтым ніякай-ніякай маны!
Закружыцца горад і зоркі над ім,
Як вечны, кахальны іскрысты бурштын.
Адно падглядае гарэза-ліхтар,
Як кружыць у танцы мяне мой спадар.
Хто мудры, змаўчы ў гэты казачны міг,
Аб тым, што пагасьне ліхтар-чараўнік,
І новага дня і клапоты, і тлум
Пакінуць ад вальса ліпнёвага сум.
На гэта пакуль не жадаю зважаць,
Адно ў галаве: танцаваць, танцаваць!
Яшчэ пасьвяці, зачаруй нас, ліхтар,
Пакуль мяне кружыць у танцы спадар!

* * *

Навошта гэта,
я ня знаю.
І я цябе…не,
не кахаю.
Дый ты душу маю трывожыш,
І сум, і смутак у ёй множыш…

## Варшаўскі цягнік

Варшаву для каханьня
Бог сапраўды стварыў.
*Леанід Дранько-Майсюк*

Няма вады. Цягнік сапе.
Няма айчыны нашай славы.
Тут выпадкова мы ў купэ,
І едзем проста да Варшавы.
Грукоча правільна цягнік
У такт сяброўскае размовы,
Што гэты незвычайны міг
Нам Бог паслаў невыпадкова.
Даўно знаёмыя: на груд
Дзён адраджэнскіх склалі руны,
Мы зараз лёс да лесу тут,
І ў гэтым ёсьць *гульня Фартуны.*

## Папяровы парасон

...Папяровы парасон,
Ты — цудоўнай казкі сон!
Па дарозе ў Чэнстахову
Паланіў маю ты *глову*
Столькі дзён *юж,* столькі дзён!

Дзе развага, дум разгон?
Дзе кіпучых спраў палон?...
Быў ён клічам нечаканым
У чароўны край каханых,
Бо дарогу ведаў ён!..

Ён — вандроўнік мімалётны,
Легендарны і шляхетны,
Што ў смузе з'явіўся дзён,
Засьвяціў на небе зоркі...
Шлях той не здаваўся горкім,
Дый застаўся толькі сон
І... папяровы парасон!

Чуўся рэхам нечаканым
Кліч у райскі сад каханых,
У той шлях, што выбраў ён,
Як анёл іграў на флейце:
Над сабою лятасьць мейце!..
Дый застаўся толькі сон
І... папяровы парасон!

## Тэлефон

Дадому еду вечарам звычайным,
Метро сапе агрэсіяй і стомай,
Стаптаны дзень, дый не такі адчайны,
Як мог бы быць... Вяртаюся дадому.
Навокал пасткі сакавіцкіх лужын,
Навокал мноства раўнадушных твараў,
Якім ты не патрэбен і — *не нужен* —
Са скрыняй мрой між рэчаў і тавараў.
Вяртаюся дадому ў вечар позні.
Дзень быў насычаны нятворчым
тлумам,
Бывае сакавік, як часам восень —
Дажджлівы, хмуры, неспадзеўна
сумны.
І вось я дома. Соня-пёс чакае
Заўжды мяне даверліва, аддана,
Яго прынамсі доля ўжо такая —
Удзячным быць, хоць часам і пагана.
Я знаю, што павінна штосьці адбыцца.
Я твой званок чакала ад расстаньня
З табой, мной сфантазіраваны рыцар,
Хоць мы й не прызнаваліся ў каханьні.
Слоў выпадковых яркія спляценьні
Перадаюць пачуцьцяў вір шалёны...
І рвецца з сэрца: «Божа, пахвалёны!..»
І за фіранку ймкнуцца лятуценьні,
Куляючы з геранямі вазоны.

## Варшаўскае рэха

Стыне сяброўская чорная кава,
Месца спатканьня — кастрычнік,
Варшава.
Йшлі мы ня побач, ня ведалі нават,
Што нам у лёсах заткана Варшава.
Горад, як сябра, сустрэне ласкава,
Як чараўнік, ён падмане яскрава...
Што ж нас назаўтра чакае, цікава?..
Сёньня ж мы разам, і наша Варшава.
Дый неўзабаве пачнецца аблава
Дзён шэракрылых, расстаньня,
Варшава...

* * *

Мы не сустрэліся з табой
Сягоньня — ў дзень расчараваньня.
Хоць тэлефонны голас твой
Учора нам судзіў спатканьне.
Дый лесу ўладная рука
Дарогі нашы разьдзяліла,
Мой сябра з рольлю сваяка,
Вандроўнік, сэрцу гэтак мілы.
Як летуцела я пачуць
Твой голас блізка да шаленства!
Самотай страшнаю плачу
За страчанае блаславенства.
І толькі сумнае «даруй»
Вісіць, як шыльда над вітрынай,
А я іду між сьнежных струй
З нязнанай нейкай мне Ірынай.
Зьмяняе горад калярыт:
На ўсім цяпер адценьне кары,
І побач зноў Цмачына-Быт,
Якому — ўсе мае ахвяры.

* * *

Ратуюся ўспамінам пра Варшаву
Ад наступу самотных шэрых дзён.
Там нашых крокаў рэха, наша кава,
Наш непаўторны, сьнёны разам сон.
Уражаньне, што мы даўно знаёмы,
Што нам сустрэча вызначана звыш,
Што ўжо зьвіняць вянчальныя нам бомы,
Што адзіноты ўпаў нясьцерпны крыж...
Ратуюся ўспамінам пра Варшаву,
І ты ў плашчы шляхетна ў ім стаіш...

* * *

Ідуць хвіліны несустрэчы,
Віно крышталіцца ў кілішках,
Няўтульны вечар, стынуць плечы,
Ў душы туга скрабецца мышкай.
Мой наймілейшы падарожны —
Узор сяброўства і пяшчоты —
Відаць, адклаў візыт на потым
Такім штрыхом неасьцярожным.
Так выпрамляе скрыжаваньні
Насьмешнік — лёсаў архітэктар.
Ён адмяняе нам спатканьні,
Дае кірункам іншы вектар.
Але я ведаю — зьнянацку
Ён прыпасае нам сюрпрызы:
Дае ілюзію, як цацку,
І ставіць збоку знак рэпрызы.

**Легкадумнае танга**

Музыка сьціх, зайграўшы раптам танга,
І галаву ўскружыла нам яно.
На міг забыты статусы і рангі,
Ўзрушае думкі йскрыстае віно.
Такое не паўторыцца, я знаю,
Хоць я малю, каб быў наступны раз.
Я не скажу, што я цябе кахаю,
Таму што гэта Бог кахае нас!

А ліхтары гулялі ў нашы цені,
І гэты вечар быў для нас дваіх,
І нашых рук гарачыя спляценьні
Заместа слоў былі, што лашчаць слых.
Такое не паўторыцца, я знаю,
Хоць я малю, каб быў наступны раз.
Я не скажу, што я цябе кахаю,
Таму што гэта Бог кахае нас!

Праводзіў ты мяне амаль да ганку,
Пяшчотай рук і вуснаў абдарыў.
Як прыкра мне, што зьнікне ўсё на
ранку,
Аб чым былі за сьведкаў ліхтары.
Такое не паўторыцца, я знаю,
Хоць я малю, каб быў наступны раз.
Я не скажу, што я цябе кахаю,
Таму што гэта Бог кахае нас!

* * *

Усё адведана памалу
З таго, што маніцца жыццём.
Раскошныя адзеньні шалу —
Як скрыня са старым шмацьцём.

І толькі Небу думкі ночыш
І ў захапленьні, і ў журбе,
І той, каторага ня хочаш,
Нязьменна ходзіць да цябе.

Чагосьці звыш яшчэ чакаеш,
Дый спадзяваньні — толькі дым,
Бо тое ўсё, што ты жадаеш,
Даўно аддадзена другім.

Такі ўжо шлях, які кладзецца,
Ні ўлева крок, ні ўправа крок.
І дзень наступны адгукнецца,
Як снам няспраўджаным папрок.

* * *

Спадарыня, ці помніце Варшаву?
Той ветраны і ліставейны блюз,
Паміж размовай стынучую каву,
Калег забытых зьдзіўлены хаўрус?
Здаецца, ўсё змагла б аддаць за права
Аднойчы зноў пачуць над галавой:
Спадарыня, ці помніце Варшаву?
Спадарыня, ці добра Вам са мной?...

* * *

Ва ўсім тварэньні Боскім на зямлі
Закладзены свой цуд нерасчытаны,
Каб мы зьдзіўляцца кожны раз маглі
І часам блытаць вартасьці й заганы...

І ўспамінаць, чые крывавяць раны,
Калі грахоў сваіх варочаем камлі.

* * *

Пасьля разлукі доўгай — міг сустрэчы...
Ці той жа ты? А я?.. — Маўчы!..— Ці тая?..
Што ў тым стагодзьдзі клалася дарэчы
Ў раскладзе дзён, цяпер, як дым, зьнікае.

І толькі пацалунак прахалоды
Кране шчаку, як мармур цьвінтаровы.
Так, ты і я — даўно ідзем наводдаль
Між словаў двух:
«вітаю» й... «будзь здаровы»...

**Кветкі**

У нашых лёсах ёсьць ад кветак
штосьці...
Дзяцінства — папараць, як парасон,
парэз.
Завейная чаромха маладосьці
І трапяткі юначы, палкі бэз.

А кола дзён кудысьці ўпарта рушыць,
І сад жыцьця падорыць аксаміт
Чароўнай, жарснай, таямнічай ружы,
Дзе ёсьць шыпы, бяскрыўдныя на від.

Чаруюць астры готыкай пялёсткаў,
Вяргіні — як натхнёныя для паэм.
І будзе сэрцу весела і дзёрзка,
Калі часіна прыйдзе хрызантэм.

# Скрутак другі

# НАВАБЕЛІЦКІЯ ТАЛІСМАНЫ

* * *

*Навабеліца — гэта рай,*
*Навабеліца — гэта край,*
*Дзе душа мая ў час маркотны*
*Свой знаходзіць прытулак лётны,*
*Дзе ратуюць яе ад шаленства*
*Анёлы майго маленства...*

**Крыху восені...**

Крыху восені і жменька кляновых лістоў...
*Уладзімер Дубоўка*

Восень чароўная сыпле лістамі,
Восеньскі водар валодае намі,
Кружыцца замець лістоў абляцелых,
Цёпла і сонечна, зьзяе сьвет цэлы!
Гэту пару адцьвітаньня зямнога
Слаўлю як Чын усялюбнага Бога!

Вечна паэты душою блукалі
Там, дзе акорды мінорам гучалі.
Сонечны водбліск лістоты пажоўклай
Вершам натхнёным усдавіў Дубоўка.
Словам, што сэрца рабіла відушчым,
Восень і Край гэты ўзьнесены Пушчам.

Так і сягоньня я думкі настрою,
Зачараваная, восень, табою,
На перамену ў прыродзе улады.
Стану як лісьцейка ў час лісьцяпаду
І далучуся да восеньскай сьвіты —
Гэй, ды ў пагоню за сонцам зьнябытым!

## ТАВІЗ

...«ськідаліся» на пляшку лошыцкага віна
з агрэсту ці антонаўкі,
малой цаны, але выдатнага смаку...
*Максім Лужанін*

*«Над чаркай выпітых гадоў*
*хачу сьпяваць, хачу маліцца»,* —
Сказаў паэт узьнёслых сноў
І ўзьвелічэньня Краю рыцар...

Праз хмары часу бачна нам,
Як п'юць сяброўства шчыры водар
Язэп, Уладзік і Адам,
Максім і, безумоўна, Тодар.
«Багемны» дым пад стольлю віс
У рэстарацыі «Эўропа»,
Дзе ўвесь узрушаны *ТАВІЗ*
Свой ганарар любіў прапокаць.

Гаворка пра краіну йшла,
Пра тое, хто ў ёй *свой*, хто *лішні*,
Размова ткалася з цяпла,
Віно крышталячы ў кілішках.
Віно з агрэсту грэла кроў,
Віно з антонаўкі патолю
«*Над чаркай выпітых гадоў*»
Ліло і варажыла долю...

## Купалаўскі трыпціх

### 1. Жалейка

Што там сьніцца калаўроту,
Калі сьпіць кудзелі дзея?..
Зоркі ў хмарах, пошук броду,
Змрок і вечная надзея...
Ўжо цяпер ня надта ёмка
Словы ўзрушлівыя траціць —
Беларусь, як незнаёмка,
На парозе ў роднай хаце.
Хто з задумлівых адкажа,
Дык пра што жалейка грала?
Дзень да дню турботу вяжа,
Доўжыць сон, што сьніў Купала.

### 2. Сны...

«*Мне сьняцца сны аб Беларусі...*», —
Сказаў, ніхто тады ня ўцяміў,
Ў якім пякельным, жорсткім крузе
Усе дазваньня будуць самі.
«*Ня збыў яшчэ ўсіх бед...*», — ці чулі!
Сказаць такое пралетарам,
Што павярнуць зямную кулю
Ўзяліся дружна з пылам-жарам!
А патас будучыні звонкі?
А кельмаў сьпевы ў рыштаваньнях?

Што ж, ён сасьніў сабе старонку
Адзін-адным! Расчараваньня
Не прыхаваў прад карным тварам
Літаратурных камісараў!
О так, я буду пралетарам!
Сваіх і вашых рознасьць мараў
Адкрыць у слове тым вазьмуся...
«*Мне сьняцца сны аб Беларусі...*»

### 3. Прывід

А што за новыя павевы
Над краем прымхлівых балот?
Якія тут чуваны сьпевы?
Аб чым туркоча калаўрот?
Чые кіруюць тут нашчадкі
І мудры лад сабе вядуць?
Ці проста пляскаюць у ладкі
І, як заўжды, на край плююць?...
А калаўрот сабе туркоча,
Кудзеля тчэцца з году ў год,
Удзень і ўночы, ўдзень і ўночы
На новы шлюб, а не на звод.
Нябачным прывідам Купала
Самотна ходзіць паміж нас.
Ці хоць чыя душа пазнала
Яго й дала яму адказ?
Яго маўклівыя пытаньні,
Як дзіды, шчэрацца шыхтом,
Бо груганы — на паляваньні,
І ўсьцяж ні шабляй, ні шчытом
Няма каму ўжо бараніцца:
Той зьгінуў ціха, той здалёк...
Аб Беларусі сон нам сьніцца,
Які наслаў Купалу Бог.
А калаўрот сабе туркоча,
Кудзеля тчэцца з году ў год,
Удзень і ўночы, ўдзень і ўночы
На новы шлюб, а не на звод.

## Вязынка

Каб душа не перастала
Быць з нябёсамі ў абдымкі,
Да Купалы, да Купалы —
Месца нашай пілігрымкі.

Незабудкі вышываюць
Малады дыван зялёны.
З дрэў русалачкі гукаюць
І калышуцца ўлюбёна.
Песьняра свайго люляюць,
Ткуць замовы над калыскай,
Дбаюць, ах, яны-то дбаюць,
Каб тут чорт які ня рыскаў.

Блаславёная мясьціна,
Водар долу і паветра.
Гэта дружная гасьціна
Будзіць сэрцаў нашых нетры:
Беларускіх сэрцаў вугаль
Зноў распалены Купалам!
Хто ідзе там полем-лугам?
Хто? І глянуце — іх нямала!

Гэта мы — не марнатраўцы,
Не бязродныя вандалы,
А зямлі сваёй дзяржаўцы,
Як прарочыў нам Купала!

## ЯНЫ

гэй-гэй-гэй
шмык-шмык-шмык
так-так-так
б'еццa ў скроні цьвяльлівы капрыз
гэта вецер гуляе лайдак
мне рыхтуе чарговы сюрпрыз

шмык-шмык-шмык
так-так-так
гэй-гэй-гэй
іх вітае гарэзьлівы дождж
не адгоніш ты іх ад дзьвярэй
ім ня трэба ні ежа ні грош

у хламідах вандроўных ідуць
ці то шэпт з вуснаў тчэцца ці крык
то нязьдзейсненых мар ду-ду-ду
так-так-так
гэй-гэй-гэй
шмык шмык-шмык

хто яны чужакі ці радня
што і ў дождж і ў туман тут як тут
іх ня ўзяць не шпурнуць не падняць
і ўсё тнуць та-та-та
ту-ту-ту…

## Паланэз

Ізноў летуценны загадкавы бэз
Паклікаў душу ў небакрайныя далі,
Як выклік вясны, як кахальныя хвалі,
Як старашляхетны пан-брат паланэз.

У тым паланэзе палоніцца сьвет,
Натхнёны ўрачыстым і сейбітным маем,
Ён годна ўладарыць і сэрцам, і краем,
І ў чэрвень нясе свой зялёны імпэт.

А музыка лісьцяў чаруе і спрэс
Крышталяў на кветках расістае
зьзяньне,
Трымценьне, трыумф, трапятаньне,
трываньне
Душы і бясконцасьць вясны… Паланэз.

## Прыватныя рымляне

Прыдумаў нехта міф аб рымскіх
продках,
Каб веяў водар арыстакратычны
Над краем, да сярмягі больш
прывычным,
Дзе архідэй ня знойдзеш у стакротках.

Але і ў Рыме быў ня кожны панам,
Насіў ня кожны тогу і кірасу.
О, колькі безыменных пад тыранам
Палегла лёсаў! Моўчкі і адразу!

Адразу, моўчкі… Час на часе крочыць.
А той закон паўсюдна ж уладарыць:
Дух аб свабодзе вечнай толькі марыць,
Яго палёт вартуе дэман ночы.

Адно жыцьцё для цэзара, вяльможаў,
Дый іншы шлях для рымлян
шэраговых.
Для іх — налогі, праца, быт суровы,
І карны меч, ці слуп расьпяцьця,
можа…

Іх енкі, плач, іх сьвяты, спадзяваньні
Не апісаў цікаўны летапісец,
Пад вартай зор заснулі іх каханьні

І сталі проста пылам там, у высі.

Вяльможны ж дух прыдбаў вянок
лаўровы,
Партрэты ў рымскай вопратцы
заказваў,
Лаціну толькі вызнаваў за мову,
А іншы гук — за простасьці заразу.

Але ж руйнуе час так адэкватна
І той партрэт, і той вянок узорны.
Дык што ж казаць пра рымлянаў
прыватных?
Яны даўно — дарожны пыл і... зорны!

**Нававеліцкія талісманы**

Нававеліца — места гербоўнае:
Места Рысі ў блакітным полі
І душы маёй хустка ахоўная,
Што ня вынасіцца ніколі.

Тут наўсьцяж разрасьліся акацыі,
Больш нідзе іх столькі ня ўбачана.
Ах, акацыі, маеце рацыю,
Што найлепшая вы мая спадчына.

Вы з маленства мяне зачароўвалі
Незвычайнай драбнотай лісьцікаў.
Школьны сад і дзяўчынка на ровары,
Матылі, і фантан, і... містыка...

Ах, акацыі, — ілюстрацыі
Да жыцьця таго бесклапотнага,
Элегантныя панны-грацыі
Вы зь юнацтва майго узьлётнага.

Бо з галін вашых шлях цярэбіцца
У прывабна-нязнаныя высі,
Талісманы мае нававеліцкія —
Пах акацый і рысы Рысі.

## Філамацкая імпрэза

І сьвечкі гараць, як віваты,
І думкі аб велічным нечым,
Нібыта сябры-філаматы
Зьбіраюцца ў сьнежаньскі вечар.

Вядзе іх высокая мэта:
Айчына, навука і цнота.
Ніхто зь іх, магчыма, ня ведаў,
Што так ушануюць іх потым,

Калі ажыве, як паданьне,
У часе натхнёнай сябрыны:
Айчына, навука, каханьне —
Закон ад Адама адзіны!

Айчына, навука і годнасьць —
Як спадчынны код незьнішчальны.
З Пагоняй і з Моваю роднасьць
Як знак над усім вызначальны!

І сьвечкі гараць, як віваты,
І думкі аб велічным нечым,
Нібыта сябры-філаматы
Сумовяцца ў сьнежаньскі вечар.

## Грааль Адама

З прытульна-тлумнага Парыжа,
З гасьцін Швейцарыі і Рыма
Вярнуўся ў роднае зацішша
Ён Духам вечным Пілігрыма...

Ён крочыць позіркам відушчым
Між родных сэрцу камяніцаў;
Па свіцязянскай даўняй пушчы —
Як Беларусі верны рыцар.

Над краем льсьніць нябёсаў брама,
Чуваць гул сходак філамацкіх,
І п'ецца зноў Грааль Адама
За лёс ваколіц наваградскіх...

## Прытулак

Прытулілася да Адама,
Прытулілася да Марылі...
Запрасіла ў свой схоў альтана,
І анёлы крылом акрылі...

Да музею вядуць прыступкі,
Быццам лесьвіца да вышыняў:
Пазірае гадзіньнік з грубкі
На сядзеньні для крыналінаў,

Тхне эпоха і вершы ўзносіць
Над партрэтамі і над бюркам
Той, хто пойдзе ў ліхую восень
За край родны з радзімы туркаў.

А пакуль што яго з партрэта
У блакітным сваім адзеньні
Чуе пані-душа Паэта —
Уладарка яго натхненьня...

Беняконі, касьцёлу брама,
Медунічная бель магілы.
Прытулілася да Марылі.
Прытулілася да Адама...

*24.09.2005*

## Лошыца

Там, дзе сьнег белым-бела парошыць,
Дзе сьпяць Краю забытыя тайны,
Дрэмле пані самотная Лошыца,
Як парыў да нябёсаў адчайны...

Велягурны палац над рачулкаю —
Тут калісьці жылося ня горка!
Аб сялянах з бацькоўскаю думкаю
Быў тут госьцем Навум Прыгаворка.

Герб шляхецкі з выяваю годнасьці
Над камінам — ня сімвалам пыхі,
Але славы ваярскай і вольнасьці,
Бо зусім не сармацкія прымхі

Вера ў Бога, Свабода, Айчына!
Так жылі неўміручыя продкі.
А ў карчме серабранскай спачынак
Быў сялянам салодкі, салодкі...

Вецер лісьце-ўспаміны латошыць.
Высах мёд у збуцьвелае шклянцы.
Баль гудзе, едзе шляхта да Лошыцы
У старой гарбузовай фурманцы.

## Ліст да чытача

Тут знойдзеш, мой чытач, відаць,
нямала
Ты несур'ёзных рысаў мадрыгала.
Пасланьні, што альбомнасьцю парфумнай
Цябе, магчыма, ўразяць легкадумна.
І прысьвячэньні — вершы, не версэты —
Сустрэнеш, можа быць, і для сябе ты.
Тут дзе-нідзе ўватчэцца эпіграма
Старая — пахвальбоўная — таксама.
Вядома ж, тут гучыць і панегірык,
Паноў вялебных славячы сучасных.
Дык што ж, на тое я й свабодны лірык:
Прабую форм нямодных, дый акрасных.

*P. S.* (Верлібраў не люблю — яны халтура,
Ня вартая майстэрства трубадура).

*P. P. S.* Прабачце мне, сябры-верлібрапісцы,
Хто сьмела ськівуў ланцугі канонаў,
Бо рыфмы ўсе старэюць ужо ў калысцы —
І мне таксама гэтае вядома.
Магчыма, й я, стаміўшыся харэем,
На верш свабодны хутка захварэю!

## Беластоцкі эцюд

*Тамары Байрашаўскайте*

Ноч. Ля гатэлю ліхтар-вартаўнік
Сьвеціць нам проста ў пакой.
Мы ў Беластоку, і доўжыцца міг
Мілай сустрэчы такой.

Нам, разь'яднаным хрыбтамі меж,
Жыцьцём прасаваным усмак,
Між беластоцкіх касьцёльных веж
Лёгка так, сьветла так.

Узносім пачуцьці бяз моцных він,
Хоць заблукалі і ў бар.
Наш турыстычны гатэль *Rubin*
Для нас запаліў ліхтар.

Заўтра на Вільню ты, я на Мінск...
Зноў — гон шалёных дзён.
Успамінай праз іх лязг і віск
Наш беластоцкі сон:

Гэтыя тры верасьнёвыя дні,
Доўгіх дыскусій жар.
Шпацыр па *мясту*, аўто, агні...
*Castel, Rubin*, ліхтар...

**Часопісу «Крыніца» у 1998 годзе**

*** * ***

За гонар маю у «Крыніцы»
Свае радкі надрукаваць! —
Так скажа вам адэпт традыцый.
«За гонар маю у «Крыніцы»... —
Па-свойму будзе паўтараць
І авангарду дзёрзкі рыцар.
Для ўсіх за гонар —
У «Крыніцы»
Свае радкі надрукаваць!

(Меў там шчасьлівы свой мамэнт
І рэаліст, і дэкадэнт).

* * *

«Я маю твор!» — то голас аўтара.
«Я маю твар!» — адказ рэдактара.
У дыялогу тым бруіцца —
Знаходзіць рэчышча «Крыніца»...

І пазьней...
(эпілёг)

Дзе, Беларусь, твае крыніцы?
Арандаваў меліяратар.
У смагу зможаш ты напіцца,
Адгаварыўшы *noster pater...*

Ойча наш,
пашлі нам праўды Слова,
пашлі сьвятло на змрочлівы загон
за тым, каб заструменіла нанова
крыніца духу —
вечнасьці аснова —
і сінім быў нябёсны парасон.

**Княгіні хараства нявольнік і халоп**

Хоць сьпёка высушыць,
Хоць здарыцца патоп,
Гучаць *жалейку* новых дзён прымусіць
*Княгіні хараства* нявольнік і халоп
І вольны сын свабоднай Беларусі.

Рупліва ўзрошчаны ім паэтычны сад,
І ён, зьбіральнік паэтычных дулін,
Настроіць свой натхнёны рыфмапад
Па Новазапавету *ад Матулі.*

Злучыўшы *ксты* на прыйсьце новых
дзён,
Малітваю ўдалечыні ад тлуму,
Ўсю Беларусь сваім сагрэе ён
Высокім словам Праўды, Веры й Суму.

Яго народ, дайшоўшы да мяжы
Свайго ярма тутэйшасьці трывалай,
Па завядзёнцы ўсё ж не пабяжыць
Прарока слухаць, так як і Купалу:

Прывыкшы вечна тузацца ў багне,
Да сонца вочы ўзводзячы раз-пораз,
Глядзіць, куды цяпер жыцьцё «прагне»,
Хаця з вышынь чуцён прарока голас.

Але і ў змроку песьня загучыць!
Княгіня Хараства ўладаркай стане,
І адамкнуць магічныя ключы
Яе палац!
І ў бляску зьнікнуць здані.

*4.05.2000*

## Літаратурная гаспода

*(радыё-этэр Галіны Шаблінскай)*

У новы шлях, у новы час,
Калі надарыцца нагода,
Як на ўваходзіны, кліч нас,
Літаратурная гаспода!

Што ўсмак задумана пяром,
Хай зьдзейсьніцца на шчасьце творцы!
Быць сёньня цяжка песьняром,
Калі сьпяваць пагаслай зорцы.

Але надзея ёсьць адна,
Што зорка зьзяе, хоць і зводдаль!
Пад ёй гамоніць давідна
Літаратурная гаспода.

Які шырокі, тлумны двор
Тае шыкоўнае гасподы!
Тут рэчка, поле ёсьць і бор,
І сад, і вечных яблынь водар.

І гаспадыніна рука
На сподку цёплым і зь вядзерца
Нам знойдзе хлеба й малака,
Каб наталіць душу і сэрца.

## Кур'ер

*Сьветлай памяці Ігара Герменчука*

* * *

Шаноўны рэдактар Свабоды,
Твой почырк у хлуду папер
Пазнае вандроўнік заўсёды
Па імені руху — *Кур'ер.*

* * *

Калі адкінуць летуценьне,
Ўстае пытаньне, спадары:
Ці мы, прайгралі адраджэньне,
Ці ў новай мы яго пары?
Паміж сабой плялі інтрыгі,
Хто большы вершнік на кані.
Пагоню спуталі вярыгі
І не ўзышло на камяні...

Хто ж славу даўняе Пагоні
Упіша ў новы інтэр'ер?
Чакаюць вершнікі і коні.
Імчыць, імчыць да іх кур'ер.
Кур'ер — між заўтра і ўчора,
Між небам нацыі й дрыгвой,
Між чынам вольнасьці і зморай,
Пакуль гучыць па-над прасторай
Хлусьлівы барабанны бой.

Ён пасланец таго змаганьня,
Што не сьціхае ў грамадзе,
Сымболь свабоднага дыханьня
І новых будучых надзей,
Што Беларусі поўнай мерай
Калісьці выпадуць дары
Вясны, прынесенай Кур'ерам
На заняпалыя двары.

*12.11.2001*

**Кіркор**

Зь якіх далін? Зь якіх там гор?
Зь якіх узвышшаў беларускіх
Да нас прыйшоў спадар Кіркор? —
Бо запрасіў спадар Запрудскі!

Ён, як містычны маг-факір,
Адкрыў стагодзьдзяў пыльных сховы...
І вось Кір-Кор, альбо Кор-Кір,
Ужо з намі тут сядзець гатовы,

Як самы важны кансультант
І сьведка, што не марнатраўства
Зрабіў шаноўны дысертант
У справе кіркоркіразнаўства.

Бяседа вольная цячэ.
Кіркор коркірыць! І ня здасца!
Бо Беларусь жыве яшчэ,
Хоць вір, хоць кір, хоць мор, хоць
трасца!

І выйдзе, знойдзе свой прастор
У рэчышчы агульналюдскім!
Як прадчуваў спадар Кіркор,
А нам давёў спадар Запрудскі.

*31.10.2000*

**Калядны верш**

Якая б ні была пагода
На беларускім на двары, —
Каляды йдуць, і вось нагода
Сустрэцца зараз нам сябры!
А на Каляды трэба з Зоркай
І для ўрадлівасьці з Казой
Ісьці ў падворак ды з падворка,
Сьпяваць і цешыцца красой.
Бо гэта час Куцьці вялікай,
Час таямнічай варажбы,
Калі наш продак духаў клікаў,
Між тым і гэтым сьветам быў.
Хто чаравік, а хто люстэрка
У пэўным месьцейку хаваў,
І адступала паняверка,
Палала ў чарах галава...
Хто бачыў твар свайго каханка,
Хто шлях нялёгкі ад варот,
Хто толькі колца абаранка,
Хто шчодры будучы ўмалот.
Паэта пасьвіць гнаў Пэгаса
Пад самы зорны небакрай.
На стол вяндліны і кілбасы
Зьбіраў увесь сьвяточны край...
Дык што ж ідзе у час калядны
На беларускі тлумны двор —
*Адычны* час ці час *балядны*?
Ад зор да цемры ці — да зор?
У кожным разе бачаць вочы —
Хто б колькі кепстваў ні зрабіў, —
Дый Зорка зьзяе, Магі крочаць,
Дзіцятка Ірад не забіў!

## Сьнежаньскае танга з Алесем

За дзьвярыма сьнег вястуе непагоду,
І на ганку, як вандроўнік, сьнег...
Мы ж у тлуме прадсьвяточнага народу:
Тут размова, музыка і сьмех.

Будзьма таньчыць, аж пакуль грыміць
аркестар
І міргаюць заклікальна ліхтары,
Ты — шыкоўны кавалер мой і маэстра
—
Момант цуду незабыўны паўтары!

Толькі танец нас на гэты міг злучае,
А разлучыць за дзьвярыма сьнег...
Пачакайце! Хто там лямпы выключае?..
Зноў завея, цемра і сабачы брэх...

## Радзіма Дамейкі

У Мядзьвядцы
6 кастрычніка 2002 года

Жоўтае лісьце... Кастрычнік... Ізноў
Сонца ўступіла ў пару лісьцяпаду.
Старашляхецкая просіцца кроў
У шлях беларускі ў радзімых прысадах.

Дождж і дарога ў адноўлены Мір,
Але ня Мір наш прыпынак, ня замак...
Зрушыць стагодзьдзі — як трапіць у вір
Ці ў глыбіню іншасьвету таксама.

Вось мнагалюдны асьветлены двор —
То філамацкі шляхецкі фальварак:
Думак, памкненьняў да волі прастор,
Творчасьці плён і узвышанасьць мараў.

Толькі падмурак самотны... Дзірван
Зьлёгся на рэштках тае камяніцы.
Побач маленькі зялёны курган —
Быццам пагорак старое бажніцы.

Мы пілігрымамі ў гэты дзень тут —
Рэч Паспалітае даўняе дзеці,
Попел стагодзьдзяў і кроў іх, і бруд
Памяцьцю й духам уквецім у квецень.

Дзень у Мядзьвядцы... Маўклівай імшы
Хутка зьлятае гадзіна. Малітва
Кропляй дажджу зіхаціць у душы,
Цішыць гаркоту паразаў па бітвах.

Восень... У золаце гэтай пары
Сэрца кранае шчасьлівы сум нейкі:
Зьбірае кракаўскі прафесар Ян Рын
Жоўтае лісьце з радзімы Дамейкі...

**Крумкач**

Быў крумкач спачатку белы,
Але сьвет быў чорнай згубай.
Быў крумкач яшчэ той сьмелы —
Стаў дзяўбці нябёсы дзюбай.
І праз дзірку ў вечным грудзе
Сонца ён здабыў напорна —
Белы сьвет прынёс ён людзям,
Але сам зрабіўся чорным.
Так гаворыць нам паданьне.
Крумкачы ж, як воі ў латах,
Сьцерагуць нас ад зьляканьня,
Ад нячысьцікаў патлатых.
Мы ж злавеснае ў іх бачым,
Нейкай трупнасьці атруту.
Ўсё іначай, ўсё іначай,
Бо крумкач ня церпіць бруду,
Легкадумства, непарадку,
Ён — жывога першапродак.
Паглядзі — ў зімовым парку
Ён вартуе сон прыроды.

**Шпацыр**

Шпацырую,
          шпацырую,
Думкі сумныя цырую
Вохкім
          водарам
          паветра:
Крок —
          паўметра,
          крок —
          паўметра...
Раўнамернае дыханьне
Дапаўняе цыраваньне.
Слота,
          сьнег,
          сабачы брэх.
Не сьпяшаюся дадому,
Як прапісваў доктар Брэг,
Так здымаю стрэс і стому.
Шпацырую,
          шпацырую,
Думкі сумныя цырую
Пра самоту,
          пра цэнзуру,
Негламурную фрызуру,
Непадпіс на «Нашу ніву»,
Згубную адданасьць піву,
Пра партрэты на экране,
Рост тарыфаў, цэн у краме,
Тэрарызм і грып курыны,
Рэдкасьць шчырае сябрыны...
І таму падобны рой
Думак, што псуюць настрой...
Так на ўпалы дух, на страты
Шые мой шпацыр заплаты,
Як прапісваў доктар Брэг,
Пад сабачы гучны брэх...
Хтосьці скажа: ну, паэтка,
Галава ж дык не шкарпэтка!
Шпацырую,
шпацырую,
Галаву сваю
          ц
          ы
          р
          у
          ю.

**На Чэрвеньскім рынку**

На Чэрвеньскім рынку — гамонка
людская,
Харчовае сьвята на Чэрвеньскім рынку:
Таўчэцца, купляе — і ў торбу, і ў
скрынку,
Пакуль грошы ёсьць, грамада
гарадская.

Іду па гародніну — час выпаў лоўкі!
І рушу хутчэй да прылаўка, дзе стане
Лілея мая — Каралеўна маркоўкі,
Цыбулі, капусткі і яблыкаў Пані.

Паэзія поўная тут на прылаўку:
Капуста распусная маніць вальяжна,
Радыска капрызная стройную траўку
Пятрушкі і кропа цьвяліць эпатажна,

Чунрынай зялёнай зірне чыпаліна
І белым загадкавым вокам фасоля...
Ах, пані Лілея, такую сьцябліну
Капусты пекінскай вам выпала доля

На градах айчыны ўзрасьціць
беларускіх,
Такі часначок і такі агурочак,
Што міма прайсьці ані турак, ні рускі
Ня зможа — купіць гэта ўсё ён захоча!

Дык што ж ужо я?.. Тут вядома —
ўлюбёна
Даўно ўжо я крочу праз рынка калітку
Туды, дзе Лілея царуе натхнёна,
Дзе морква ёсьць, яблык і ўсё для
спажытку.

**Дэкадэнт**

Трывожным подыхам натхненьня
Паэт зьбіраўся зразумець
*Лістоту колеру зьнікненьня,*
Якой кіруе толькі сьмерць.

І ў бел-чырвона-белым полі
Ён, быццам рыцар на кані,
«Жыве... аднак... Яна!...», — прамовіў,
Ды не пачуў адказ,.. ані...

І ў даўгаполым палітоне,
Далей ад п'яных мар-спакус,
Паэт пайшоў у глыб сутоньня,
Паслаўшы к чорту ўвесь хаўрус.

**Над Прыпяцьцю**
*(аповед ксяндза Юзафа Дзеконьскага)*

Тут, над Прыпяцьцю, мышак
касьцёльных
У закрыстыі чуюцца танцы,
Павукі тут жывуць і павольна
Вырабляюць для Бога ружанцы.

Тут жывуць і пабожныя мухі,
На алтар яны чынна сядаюць —
З Панам-Богам самім размаўляюць,
Сапраўды, то пабожныя мухі.

Часам пёс прыпляцецца кульгавы,
Стане сьціпла ў дзьвярах, не скавыча.
На імшы тут каты пяюць: «Авэ...»,
Хоць ніхто іх сюды і ня кліча.

**Пятрос і Гаворла**
*Закарпацкі эцюд*

*Лідзе Дарошка*

Тут восень, тлум, сьвет рэчаў у
вітрынах,
Штодзённасьць працы, абавязку бэрла,
А дзесьці там — у марах, ва ўспамінах
—
Пятрос у хмарах шэпчацца з Гавэрлай.

Хоць тлум, хоць перамены, катаклізмы,
Яны нязьменна, велічна і вечна,
Даюць усім адпіцьь сваёй харызмы
І толькі сонцу — лашчыць свае плечы.

Ідзем, ідзем... Нагамі топчам хмары,
А вецер-зух зьдзімае капюшоны...
Ў прагалы хмар зірнуць далін абшары,
І ў *паланыне* статкаў бомкнуць звоны.

Тут час нясьпешны, не бягуць тут
кросы,
І вось ужо... ужо, здаецца, ўзяты
Падвойны горб магутнага Пятроса.
Ды дзе там, дзе там! Зноўку шлях
пукаты...

З чым параўнаць, нарэшце, шчыт
вяршыні,
Калі трыумф да кожненькага нерва
Цябе агнём, як золатам, расшые, —
Бо неба ты трымаеш і Гавэрла!?

І сьвет мізэрных клопатаў штодзённых
Тужліва, зьнізу кінутай гасподай,
Глядзіць у вышыню нябёс бяздонных,
Дзе мы сам-насам з Богам і Свабодай.

* * *

*Спазнала ісьціну старую*
*Ізноў, як тайну адкрыцъця:*
*Дайсьці праз Літару Чужую*
*Да сэнсу ўласнага быцьця...*

# Скрутак трэці

# ГОСЬЦІ

# (пераклады)

## ЛЕАНАРД ПАДГОРСКІ-АКОЛАЎ[1]

* * *

О ты — далёкі, ты — мой неадступны
Абрыс зямлі зялёнай беларускай!
Там дзесьці плён на нівах сьпее рупны,
І праплывае хмарка белай гускай.

Там дзесьці над лугамі заліўнымі
Дурэе ветрык, як дзіця малое,
І жаўрукі зьвіняць у вечнай сіні,
І шпак ляціць над цёплаю ральлёю.
Шумяць-гудуць смарагдавыя сосны,
Яліны годна ўвысь імкнуць вярхушкі,
На сонцы шышкі золатам льсьняць росным
І любяць ветрык на галінках гушкаць.

Там белы дом стаіць двухпавярховы
З верандаю шкляной, з драўляным ганкам,
І дзьверы, прыадчыненыя ў сховы
Яго нутра, дзе мухі таньчаць ранкам.
Там сіняву нябёс, як бачаць вочы,
Таполі разразаюць па-над хатай,
А там, вышэй яшчэ, — буслы клякочуць
І хмарка — гускай... Дый мяне няма там.

* * *

Стлуміў душу мне тупат зранку,
Мұроў глухіх пагляд цагляны.
Ў вачах стаіць трава ля ганку
І крыты гонтам дом драўляны.

І толькі той дамок, і тая
Трава ў вачах стаяць мне мусіць,
Якая ёсьць у родным краі —
Найдаражэйшай Беларусі.

Бо тут няма на што дзівіцца,
Душа акрасам тым ня рада,
Ня цешыць болей заграніца,
Ні Рым прывабны, ні Элада.

Бо чым яны мяне ўзьвяселяць,
Калі мілейшы за Акропаль
Цяпер касьцёл на ўзгорку белы
І ў сіняй далі любы Копыль.

[1] З кнігі: Ł. Podgorski-Okoływ. Bełaruś. Wilnia, 1924.

## Да Адама

*Ніхто ня кліча, едзем...*

Аднолькава шумелі нам з табою
Дубы і беларускія бярозы,
Аднолькава высокай сінявою
Нас чаравалі родныя нябёсы;

І тая ж нас зялёная зямліца
Карміла малаком і хлебнай цішай,
Вучыла сумаваць, кахаць, маліцца
Пад пошум траў і мілых сэрцу вішань.

Таму, калі адгэтуль нас пагнала
У сьвет далёкі злая завіруха,
Мая душа, як і твая, стагнала
Ня раз тужліва, роспачна і глуха.

І мы малілі: «Божа Міласэрны,
Стань з Краю роднага пачутым гукам!»
І слухалі — балюча і дарэмна —
Мы ціш...
(Ты — ў стэпу, я — на мейскім
бруку.)

* * *

Там лубін ня жоўты — блакітны —
Свае расьсявае пахі.
На нівах пшанічных і жытных
Ня рэюць крывавыя макі.
Касулі ў лясах ня блудзяць,
Бор лісьцьвеніц не калыша,
І аб Маршалкоўскай гудзе
Ніхто і ня чуў у той цішы.

Там тужыць блакітны лубін,
Бярэзьнік лісьцем трапеча,
І ветрык смолкі галубіць,
І ў нябёсах — сінеча...
Там ноччу трывожна бясконца
Сава па стадолах плача.
Удзень там іншы бляск сонца,
І дрэвы шумяць іначай.

* * *

Адвярнуўся дзень сьпіною,
Пушча моўкне і цямнее,
Змрок плыве над збажыною,
Над лугамі і гусьцее.
Атуліла сьвет ласкава
Цішы велічнай акраса.
Толькі «ква...» стаіць над ставам:
Жабы строяць кантрабасы.
Адвярнуўся дзень сьпіною,
Пацямнела неба з твару,
І высока нада мною
Жаль сьлязу заткаў у хмару.

* * *

Змаўкаюць птушак антыфоны,
Над сьціхлай хатай — дым вячэры;
Глядзяцца зоркі ў стаў замглёны,
На ўсім спакою прысьмерк шэры;

І спрацаваныя далоні,
І багабойны хлеб штодзённы —
Ўсё як было спрадвек і сёньня
Над цёплым полем, борам цёмным.

Пыл збудзіць сонныя дарогі,
Калі праедзе хто ў патрэбе.
Зноў ціша, месяц срэбрарогі,
На нівах мір, і Бог на небе.

* * *

Будзе ўсё, як раней: зьнікне футра зімы ганарыстай,
Прыйдуць сьветлыя ночы, якія ўстрывожваюць сэрца,
Зноў зазьзяе над ставам загадкавы месяц срабрысты,
І салоўка з далёкай ляшчыны струной адзавецца.

На верандзе накрыюць нам стол для вячэры вясковай,
Зашуміць самавар, хлеб духмяны дастанецца з печы.
І натоліцца сэрца нарэшце тут шчырай размовай,
І адыдзе туга, і душа свае раны залечыць.

А калі над усім заўладарыць тут месяц падскарбны,
З гулкай трасы далёкай шум-шорганьне шын
данясецца,
З цемры саду ўляціць тлумны рой матылёў
рознафарбных,
Каля лямпы закружыць і крылы складзе на
сурвэтцы.
Чуйным слыхам злаўлю тая ўсе перамены і тоны,
У глыб сябе зазірну і ў зіхоткія зорак гірлянды,
І далёка так будзе, як сон, у юнацтве прысьнёны:
Маршалкоўская вуліца, смутак, Скарупкі, Скамандар.

* * *

Паветра тут імглою тхніць і гарай,
Струціў душу мне горад гэты ўвішны.
Яшчэ раз клічу: «Будзь! Прыйдзі хоць марай,
Дай сэрцу зноў: сады, салоўкі, вішні!»

Забракла сіл. І роспач як адплата.
Намарна час хвілінамі сьцякае.
Гады ляцяць, як замець Лістападаў,
І пуста ўсюль, што зрок мой ні кранае.

Паветра: сум і кожны год — як рана.
Тут брук і тлум, і цэгла Магістрату.
А там, далёка, — твой спакойны ранак...
Ратуй мяне! Ратуй — адтуль, як брата.

*З ПОЛЬСКАЙ ПАЭЗІІ МАДЭРН*

## МАРЫЯ ПАЎЛІКОЎСКАЯ-ЯСНАЖЭЎСКАЯ

### На цёплым нябёсным лузе

На цёплым нябёсным лузе
Пасьвяцца белыя гусі,
Пасьвіцца белы баранак,
Як толькі прачнецца ранак.
Той луг без слупоў, бяз межаў,
Нікому ён не належыць.
Ён для тых беленькіх гусак
І для ўсіх белых баранкаў,
І для крылатых, спакусных
Радасных думак каханкаў.

### Белая пані

«Белая пані ізноў праз салон
Прайшла, — то няшчасьцяў пагроза», —
Шэпча прыслуга ў буфеце, і скон
Вястуе ўсім пах туберозы.

Белая пані на лесьвіцы ўжо,
Жагнаецца чэлядзь стакротна...

Хтось малады ёй насустрач ішоў,
Абняў і галубіў пяшчотна.

### Кабета, якая чакае

Чакае, глядзіць на гадзіньнік
Гадоў сваіх, думае штосьці.
Ад'ехаў апошні рамізьнік...
А, можа, ўжо позна для госьця?

### Ружа

У сьцішаным парку ні сьмеху, ні госьця.
Ля ружы расьцьвілай стаю.
Яна — ўвасабленьне сваёй прыгажосьці
—
Прыгажосьць разглядае маю.

### Танцорка

Дзьве маршчынкі цябе перакрэсьлілі
жвава,
І хоць таньчыш ты з лёгкасьцю
матылёвай
У сукенцы сваёй блакітна-лілёвай,
Ты ўспамін ужо толькі, ня ява.

### Цноты

Мілыя ўсе Пану Богу цноты,
Як драбноту, з сэрца адмятаю,
Вызнаю адну цяпер і потым:
Ты мой вораг — я цябе кахаю!

### Каханьне

Думаеш нешта, ў акно пазіраеш.
Сум у вачах захаваўся...
Але ж мяне ты, як мару, кахаеш?
Сам год назад прызнаваўся...

Ціха сьмяешся. Прысмак жа горкі
Ў сьмеху тым з небам зьліваўся...
Але ж то я — тваё неба і зоркі?
Сам год назад прызнаваўся...

### Пад касьцёлам

Паблякла неба з маркоты,
Жаўталісьце кружыцца колам...
Была маладосьць, як готык.
Сяджу цяпер, як пад касьцёлам...

## АДАМ АСНЫК

* * *

Паміж намі не гучала
Аніякіх слоў прынадных,
Нас нічога не злучала,
Апроч хмар вясновых здрадных,

Апроч водару і бляску,
Што насіліся ў прасторы,
Апроч траў на лузе й красак,
Што вялі гаворку з борам,

Апроч ліўневых каскадаў,
Што бруіліся ў растоках,
І вясёлкавых гірляндаў,
Што сьвяцілі з-пад аблокаў.

Апроч слодычы натуры,
Што нам сэрцы чаравала,
Разьлівалася па скуры,
Нас нічога не злучала.

### Зьвялы лісток

Над сэрцам тайна кружыць
Салодкіх сноў вязьмо.
Пялёстак белай ружы
Цяпер маё пісьмо.

Пішу рукой нясьмелай
Пасланьне, хай да зор
Пялёстак ружы белай
Нясе яго ў прастор.

Надзею, што люляла,
І смутак, што труціў, —
Рука ўсё напісала,
Што думаў я, што сьніў.

Я тую споведзь, скрушна
Што высьпела ў душы,
З пялёсткам белай ружы
Пасланц ужо сьпяшыў.

Калі ж хацеў нанова
Усё перачытаць,
Ніводнага там слова
Ня мог я разабраць.

Пажоўк той белы лісьцік,
Той мары сьлед змадзеў,
Што ў сьвет паслаць калісьці
Я шчыра так хацеў.

## Жаль

*Пераклад прысьвячаю*
*пану Генрыку Маецкаму ў Беластоку*

Калі першы раз цябе ўбачыў,
Мокрыя пахлі каштаны.
Ты ў вочы мне доўга глядзела —
Я быў сам ня свой, зьмяшаны.
Усьлед за табой я крочыў
Пад мокрымі шатамі дрэў.
Твой позірк фіялкавы слодыч
Мне ў сэрца ўліваў і грэў.

Даўно зьнябытыя словы
Адкрылі свой першасны сэнс,
І я зразумеў нанова,
Што *бэз* так пахне, як бэз,
Што чысты струменіць водар
Ад слова *водар* ізноў,
Што тайнаў дапяў прыроды
Ў значэньнях тых простых слоў.

І слова забытае *смутак*
Мне адкрылася ўглыб і ўдаль...
Як жа многа сэнсаў закута
Ў кароценькім слоўку: *жаль.*



## Сярдзіты верш

Ты ня ведаеш. Быў дождж,
Я блукаў пад ім бязладна,
І шукаў цябе, чакаў я
У тузе пякельнай, здраднай.

Ты ня ведаеш. Быў злы.
І пайшоў я піць з тым болем:
Піў гарэлку, піў наліўку,
Ох, і быў жа я вясёлым!

Ты зірні: нікчэмны верш,
Але ж ён сярдзіты, гнеўны,
Бо чакаў цябе, шукаў я
У хмуры вечар той залеўны.

БАЛЯСЛАЎ ЛЕСЬМЬЯН

## Срэбран

Настала ноч. Зьмярканьне ў зморы
Зьмяніў паўсон дрыжачых росаў.
І верыць дуб у моц Чабору,
Ва ўплыў Чабору на нябёсы.

Мільён агнёў па завядзёнцы
Ў траве згасае, каб зьнябыцца,
А поўнач цягнецца бясконца,
Прадвесьцем зорак серабрыцца.

Дзе бездараж? А дзе дарога?
Дзе боль — па сконе? Дух — па сьмерці?
Што ж, няма духу, няма Бога?
Нічога больш — а месяц сьвеціць?

Той месяц — горад у прасторы,
Дзе ціш вартуе брат мой — Срэбран,
Ён сьпіць у срэбраным уборы,
І сон, і ўбор яго — ня зрэбны!

Ён — незвычайная істота!
Паэт! — Віно і змрок старожыць.
Салодзіць сном, вядзе ж употай
У зманны вэрхал бездарожжа.

У сеткі рыфмаў срэбных мышак
Ён ловіць, ставіць срэбны нацiск —
І цэліць скраўкам срэбнай цішы
У месяцовы дыск ці прадыск...

«Ня кпі, — ён кажа сьмерці ўвішнай, —
З нябёс пад капялюхам блазна!» —
І цэліць скраўкам сіняй цішы
У месяцовы знак ці празнак. »

«Я — той, хто змрокі раскалыша,
Хто ведае, што Бог — то замець!» —
І цэліць скраўкам зорнай цішы
У месяцову медзь ці прамедзь...

Там поўна гор, далін, азёраў,
Там лес абрысамі сінее,
І, нібы сцэна без актораў,
Прасьцяг пусты ў сьвятле марнее.

І шэпча Срэбран засмучона:
«Тут змрок, сьвятло ж увысь імкліваць,
Усе мы — безьліч нешчасьлівых,
Нашто ж срабрыцца? — Невядома...

Дык перш, чым сьмерць прысудам
горкім
У змрок зьгняце мой дух і сьлёзы,

Няхай рассыплецца на зоркі
Вачэй маіх сьвятло ў нябёсы!»

Калі казаў так, моц нябыту
Падманна зьзяла на пагорках, —
Яшчэ адзін быў Бог забіты,
Яшчэ адна пагасла зорка.

* * *

Хмельcя ў сэрцы маім, хмель
Грудак, ноччу цалаваных,
Што сваю мне дарэць бель
Аж пакуль ня блісьне ранак.

Скварся ў целе маім, сквар
Дакрананьняў ручак мілых,
Што крыві нястрымнай вар
Бледным роздумам зьмянілі.

Грайся, вогнік сьвечкі, грай
На пасьцелі на ільнянай,
Трапятліва патурай
Тайнам пары закаханай.

**Ружа**

Хто кінуў на пуціны
Чырвоных макаў промні?
Меў сон я нейкі дзіўны,
Які ж — ніяк ня ўспомню.

Твае былі то вусны?
Мае былі далоні?
У садзе маім пуста —
Ні ружы, ні півоні.

Самоту не адужаць,
Зьбягаюць дні паволі.
Ці зацьвіцеш ты, ружа?
«Не зацьвіту ніколі...»

«Не зацьвіту ніколі...»
Твой голас быў то, ружа?
Ня зьведаць мне патолі,
Самоты не адужаць.

## ЛЕАПОЛЬД СТАФ

### **Я крочу ў восень...**

Я крочу ў восень, ты — вясну гукаеш,
Усё нас дзеліць, і без прабачэньня,
Хоць ты мяне чаруеш, спакушаеш,
Гляджу на твар твой з жалем
адрачэньня.

Але ж такі дарунак — ты на грудзе
Руіны дзён маіх, дзе сьціхлі шалы,
Што нават крэп жалобы ў сэрцы будзе
—
Як успамін сьвятла, ў сьвятле прапалы.

### **Чар**

У фалдах сукенкі згубіў свае вусны, і
чары
Мяне захапілі, панесьлі ў падманныя
мары.

Раскоша імгненьня... Хвіліна, і шчасьце
канае,
Хоць жар пацалункаў яшчэ твае плечы
кранае...

Укрыта касою распушчанай, сьпіш
яшчэ ранкам,
Хоць ранкам разьдзеляцца лёсы
шчасьлівых каханкаў.

Між кветак грудзей тваіх сьнежных,
пяшчотных на целе
Мае пацалункі гняздо сабе цёплае
сьцелюць.

## КАЗІМІР ПШЭРВА-ТЭТМАЙЕР

* * *

У цудоўнай цела твайго чары
Залатым він
ом жыцьцё бруіцца.
Той трыкроць, трыкроць шчасьлівым стане,
Каму ты дасі зь яе напіцца.

У цудоўнай цела твайго тоні
Тонуць вочы, бы ў азёрнай хвалі,
І назад вярнуцца немагчыма
З тых глыбінь, дзе пэрлы і каралі.

### Гульня слоў

**I**

Кахаў цябе... Над намі злая доля
Адразу ж непрывабны твар адкрыла;
Я адышоў — сьляза тваёй патолі,
Як разьвітальны дождж, мой шлях абмыла.
Я адышоў... А сьвет не паваліўся,
Пад ім не зарыпела рыштаваньне,
На ганку тым, дзе на цябе маліўся,
Навек зьнябыў я ўсё сваё каханьне.

**II**

Яшчэ гавары мне... З далёкай далі
Твой голас плыве ў паветранай хвалі,
Дажджом шуршыць ён, маланкай грымне...
Яшчэ гавары мне...

Яшчэ гавары мне... І слоў тых рытмы
Як над магілай гукі малітвы,
Смяротна сэрца дрыжыць нястрымна —
Яшчэ гавары мне...

**III**

Прыходзіш да мяне штоночы,
Мне сьнішся доўга і балюча.
Гляджу я ў вочы — твае ж вочы -
Як дзьве халодныя ільдзінкі.

Свае працягваю далоні
К тваім — яны ж вастрэй за дзіды,
Тулю твае малыя ножкі —
Яны ж суровыя, як церні.

Кроў на руках мяне абудзіць
Для дню, што будзе доўгі, сумны —
Прыходзіш да мяне штоночы,
Каб сьніцца доўга і балюча.

## КАЗІМІР ВЯЖЫНЬСКІ

* * *

Гэй! Штосьці ў сьвеце здарылася
раптам!
Хістаюцца ў вачах дамоў квадраты!
Ідзеш па вуліцы жывой, сапраўднай,
Бляднее прад табой натоўп стракаты.

Сукенка ногі плаўна абвівае,
Твая хада — сплёт музыкі і шоўку,
Сьвет зьнік зусім, адно пяро лунае,
Што красіць тваю царскую галоўку.

Бліжэй, бліжэй ты. Хвілі залатыя!
Твой твар, вуаль, усьмешка, вочы,
зубы...
Парфумы, як сваты, але нямыя,
Як найспрытней вядуць мяне да згубы.

* * *

Нібы шампанскае, я лёгкі, сьмелы,
Нібы каньяк, я моцны, урачысты,
Як мёд я, ў шалу сонечным дасьпелы,
Як спірт — гаючы, крышталёвы, чысты.

Мне каралеўствам дэлы сьвет вакольны
І без мяне няма ў яго акрасы,
На сэрцах, як на цэтліках, няўмольны
Гатунак зорны стаўлю першай клясы.

### Дыханьне вечнасьці

Няма ўжо спраў ні дробных ні вялікіх,
Дыханьне вечнасьці царуе скрозь.
З няўлоўных рухаў, з паўтаноў і блікаў
Сплятае сэнс жыцьця нябачны хтось.

Няма ніякіх таямніц схаваных,
Шляхоў, дзе ты, зьнясілены, зьнямог,
Жыцьцё на скрыжаваньнях
разблуканых
Трымае мудры ўсюдыісны Бог.

І вечнасьць, што драмае ў нашых
душах,
Калі душа зь ёй мову пачала,
Над намі завірыцца і закружыць,
Як з меданосам рупная пчала.

**Усё так цячэ нязьменна**

Усё так цячэ нязьменна,
Цячэ так спрадвек бясконца,
Пакуль ня стане замала
Паветра, зямлі і сонца.

Калі што і можа ўразіць,
Над чым будуць плакаць вочы,
То гэта несьпасьцігальны
Бясконцы парадак ночы.

**Ня знаю, Божа мілы**

Ня знаю, Божа мілы,
Ці ёсьць Ты дзе на сьвеце,
Хацеў бы сам рупліва
Служыць высокай мэце.

Служыць таму насупраць,
Што вісьне нада мною,
Чаго мне не адолець,
Хіба адно — з Табою.

Бо Ты — мая апека,
Праз тлум мяне гукаеш,
Адтуль, з вышынь нябёсных,
Дажджом шуміш і граеш.

**ЗЬМЕСТ**

Сярдзіты верш

***Баляслаў Лесьмьян***
Срэбран
***Хмельсся ў сэрцы маім, хмель
Ружа

***Леапольд Стаф***
Я крочу ў восень
Чар

***Казімір Пшэрва-Тэтмайер***
***У цудоўнай цела твайго чары
Гульня слоў (трыпціх)

***Казімір Вяжыньскі***
***Гэй! Штосьціў сьвеце здарылася раптам
***Нібы шампанскае, я лёгкі, сьмелы
Дыханьне вечнасьці
Усё так дячэ нязьменна
Ня знаю, Божа мілы

*Літаратурна-мастацкае выданьне*

Ірына Багдановіч

**Прыватныя рымляне**

Вершы і пераклады

Рэдактар Міхась Скобла
Вёрстка: Алесь Жынкін

Здадзена ў набор 10.04.2006. Падпісана да друку 25.04.2006.
Формат 60х84 1/16. Папера крэйдаваная.
Гарнітура Petersburg.
Друк афсетны. Ул.-выд. арк. 2,16. Тыраж 300.

Друкарня «TRICLINIUM»